Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 13—(53). Вільня, 8 красавіка 1928 году. Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## *Хрыстос Уваскрос!*

*Хрыстос Уваскрос, гудуць званы,*
*У паветры льюцца пераліўы,*
*Зьвіняць яны, пяюць яны,*
*Нясе іх ветрык жартаўлівы.*
*Хрыстос Уваскрос, вясна ідзе!*
*Па краю песьня раздаецца,*
*Вясна ідзе, канец бядзе,*
*То шапаціць, то з сілай рвецца.*
*Гудуць званы, пяюць яны,*
*Ім жаўрочак пад небам ўторыць,*
*Пяе ён гымны для вясны;*
*Вясна пацеху, радасьць творыць.*
*Хрыстос Уваскрос, уваскросьне ўсё,*
*Ужо рэчка скінула аковы,*
*Вурліць вясновае жыцьцё*
*І сон зьляцеў ужо зімовы.*
*Хто сьпіць, ўставай, хай згіне сон!*
*На небе сонца ясна зьяе*
*І кроў хватае гучны звон,*
*Аб радасьці ён нам сьпявае.*
*Хрыстос Уваскрос, гудуць званы*
*І клічуць нас да ўваскрасеньня,*
*Уставай браты,—зьвіняць яны,*
*Уставай і зьдзейсьні лятуценьні.*
*Зямліца маці кліча нас,*
*Уставай сявец, ўставай араты!*
*І праўду сей, ўжо сеяць час.*
*Чакаюць праўды нашы хаты.*
*Гудуць званы,—з Вялікім днём,*
*З Вялікім днём, наш край тужліві,*
*Пяюць яны—дзілім, бом, бом...*
*У паветры льюцца пераліўы.*

**Віт-Нін.**

# Вялікая сьвята.

Штогоду пад радасныя гукі званоў, абвяшчаючых людзям дзень Уваскрасеньня Хрыста, — сымболь пабеды дабра над злом, сьвятла над цемрай і праўды над маною, вітаюць людзі адзін другога словамі „Хрыстос Уваскрос“.

Гэтая добрая навіна разьясьняе твары людзей, аблягчае на міг іх сэрцы ад усяго благога і напаўняе надзеяй на спаўненьне ўсіх добрых пажаданьняў, якіх так многа ў кожнага чалавека.

Разам з абнаўленьнем у прыродзе, якое нясе вясна, абнаўляюцца таксама і людзі, якія, пакуль жывы, заўсёды спадзяюцца паправы быту свайго і палепшаньня долі. І ў гэтыя вялікія дні думкі кожнага беларуса, які ўспамінае жыцьцё і навуку нашага Вялікага Вучцеля, мусяць затрымацца на тых яго заветах, якія ён аставіў нам і якія зьяўляюцца залогам паправы нашага жыцьця і абнаўленьня яго. Любоў і праўда — вось што чуем мы, услухоўваючыся ў радасныя напевы вялікодных званоў. Толькі цераз любоў да чалавека, цераз барацьбу за праўду дарогай любові, а ня ненавісьці і цераз укаханьне Праўды здолеюць людзі вызваліцца сапраўды ад усяго благога і цёмнага, што так губіць прыватнае і грамадзкае жыцьцё людзей.

Шмат цемры і крыўды ў нашым беларускім жыцьці, але верым, што прыдзе сапраўднае абнаўленьне і паправа, калі якнайшырэй пранікнуцца людзі заветам Вялікага Вучыцеля нашага, Бога-Чалавека — „любі бліжняга, як самога сябе“.

Тады згіне і з зямлі нашай ненавісьць і зло, якога нажаль так яшчэ многа.

Мо' нідзе, як у нас, на беларускіх землях не адчуваецца так радасна Вялікоднае сьвята, дзеля таго, што мо' нідзе няма такое патрэбы ў правядзеньні ў жыцьцё завету любові да чалавека бяз розьніцы яго веры і нацыянальнасьці. Толькі ажыцяўленьне наказаў хрысьціянскае этыкі і вялікіх запаведзяў Хрыста дапаможа беларусам вывясьці свой лёс на ясьнейшы шлях і прыблізіцца да свайго нацыянальнага ідэалу.

Толькі дарогай змаганьня за гэтыя ідэалы з любоўю і пашанай да чалавека, толькі шляхам Хрыстовых запаведзяў здолеюць беларусы змагчы ўсё зло асабістае, грамадзкае, а перад усім устаяць процiў наступу ненавісьці, які йдзе на нашую зямлю з Усходу, дзе гэтая ненавісьць руйнуе ўсё жыцьцё.

---

Адміністрацыя „Беларускага Дня“ высылаець сваім падпісчыкам, якія ня прыслалі падпісной платы, рахункі. Падпісчыкі, якія ня могуць адразу выслаць усе грошы, могуць прысылаць часткамі. У выпадку неатрыманьня падпіскі далейшая высылка „Беларускага Дня“ будзе стрымана.

---

# ЗЛАВІЎ.

(*Абразок*).

Міхал выйшаў на ганак, пацягнуўся і зеванў. Сёньня была нядзеля, можна было супачыць па тыдню цяжкае працы.

Зевануўшы Міхал аглядзеўся навакол і сярдзіта сплюнуў. Ён чуўся ня ў дусе, ці то можа дзеля таго, што заспаўся, ці можа дзеля таго, што ўчора перапрацаваўся, але даволі таго, што настрой быў надта і надта кепскі.

Не разьвесяліў яго нават прыгожы дзень, рэдкі познаю восеньню; сіняе неба здавалася ўсьмехалася да яго.

Залацела пажатая ярына. Цягнуліся ў паветры белыя павучыньні і путаючыся паміж сабой плылі і плылі бясконца.

Вялікія ясені каля стаўку жаўцелі пазалотаю свайго лісьцьця, цёмна-жоўтыя лапы адрываліся і з шумам слаліся па зямле. А цішыня ж стаяла гэтакая спакойна-ўрачыстая, вось дзе ня дзе замычыць карова, ці заіржэ жарабёнак.

Звычайна такая пагода ўспакоівае чалавека, папраўляе настрой. але на Міхася гэта ня дзеяла, ён стаяў пахмурны і сярдзіты і чаго здаецца яму бы задумывацца і чаго гневацца, работа ішла спраўна, гаспадарка была наладжана, рук да працы хапала.

Але што зрабіць, бываюць такія мамэнты, калі чалавека агортвае нездаволеньне і яму ўсё здаецца пакрытым нейкаю чорнаю хварбаю і ўсё на сьвеце здаецца ня так, як трэба, зробленым, быць можа ня з тэй нагі ўстаеш, ці ня з тэй нагі абуешся, але, што гэтымі пытаньнямі задавацца, ўсё роўна прычыны ня знойдзеш.

Паглядзеў Міхал на павучыньне, якое плыло і плыло бясконца ў спакойным паветры і здалося яму, іменна на зло ягонай асобе, бясконца ўюцца гэтыя ніткі, паглядзеў ізноў, сплюнуў і зышоў з ганку.

Прайшоўся па невялічкім панадворку, пасьля завярнуў пад паветку глянуць на коні; ў вузенькіх варотцах загарадкі стаяў скулены парсюк, чакаючы ежы і нешта жаласна мармытаў сабе пад нос, быццам скардзячыся на гаспадароў, якія пазьняцца парупіцца аб ім.

# З вясною!

Сонца коскамі іграе,
Жаўручок вітае нівы,
Край радзімы ён вітае —
Звонка льюцца пераліва.

Просінь неба прыбралася
У хмаркаў лёгкіх карагоды,
Рэчка вольна разьлілася,
Скінула аковы лёду.

У полі сьнег адно цямнее;
Ручайкі шумяць бурліва,
Верба краскамі бялее
Дый калышацца маўкліва.

Песьціць ветрык наша поле
І цалуе стан бярозкі;
Цёплым подзьмухам вясновым
Граюць соўнечныя коскі,

Граюць, радасьць абяцаюць,
Клічуць выйсьці на раздольле,
Там ужо вясну вітаюць
У шырокім, чыстым полі.

Сьвята радасьці, паўстаньня
Да жыцьця, да коскаў сонца;
Цемра зможана ў змаганьні
Сьветласьць льецца ўжо бясконца.

У дзень вясновага прыходу
Я радзімы край вітаю,
Край вітаю і Народу
Шчасьця, радасьці жадаю.

Рэчка лёд ужо зрывае;
Цемры важкія аковы
Разрывай мой родны краю,
Да жыцьця ты будзь гатовы.

*В—н.*

# З Сойму і Сэнату.

Сойм закончыў сваю працу і паслы разьехаліся на сьвята дамоў. Першыя дні новага Сойму былі вельмі працавітыя, паседжаньні адбываліся па два разы ў дзень, а суботняе, 31 сакавіка кончылася каля 2 гадзіны ўночы. Сойм разгледзяў і прыняў унесены ўрадам на абрады заканадаўчае палаты закон аб буджэце *) на ¼ новага буджэтовага году, прыняў закон аб выдатках на гаспадарчыя расходы (будоўлю дамоў, дарог, школаў і г. д.) г. зв. закон аб інвэстыцыйных крэдытах і прыступіў да разгляду ў буджэтовай камісіі росьпісі даходаў і расходаў за буджэтны год ад 1 красавіка 1928 г. да 31 сакавіка 1929 году.

Пасьля Вялікадня першае паседжаньне Сойму назначана на 24 красавіка.

Як відаць з працы Сойму, Урад маршалка Пілсудскага знойдзе падтрыманьне ў Сойме, бо праявіўшаяся на першым паседжаньні большасьць ня хоча йсьці на канфлікт з Урадам.

**У Сэнаце** прынята сьпешнасьць прапазыцыі сэн. Багдановіча аб звальненьні з турмы выбранага ў Сэнат з Наваградзкага ваяводзтва Базыля Рагулі, які паводле вестак газэты „За Свободу" ўжо зволнены.

# Тактыка бальшавікоў.

У стацьці „Мэты бальшавікоў у Заходняй Беларусі" мы паказалі імкненьні і спосабы, якімі карыстаюцца бальшавікі на нашых зямельках, каб падтрымліваць рэвалюцыйны настрой паміж сялянскіх масаў і ў імя свайго аснаўнога лёзунгу: „чым горш, тым лепш", ствараць на нашых зямельках варункі для магчыма цяжкога істнаваньня сялянства.

*) Буджэтам называецца прыняты Соймам закон аб выдатках і даходах Дзяржавы за год, паводле якога пляну міністэрствы зьбіраюць падаткі і ўсе даходы ад грамадзян, а таксама выдаюць грошы на патрэбы Дзяржавы.

Міхал, каб прайсьці пад паветку, мусіў прайсьці праз гэныя варотцы, а парсюк стаяў на месцы і рохаючы ня думаў уступаць свайму гаспадару.

Міхал спыніўся і ўглядаўся на парсюка.

„Вось паскудства, здаецца", разводзіў ён, стоячы над парсюком, „а перашкаджае".

Раптам Міхала ахапіла злосьць.

— „Гм, усякая дрэнь, так і мяркуе табе папярок дарогі стаць",—закончыў ён і даў у бок парсюку наском бота, той запішчэў і адскочыў у бок.

Саўсім злы Міхал зайшоў пад паветку, паглядзеў коняй і вярнуўся да хаты. Агата, яго жонка, высокая худая кабеціна, накрывала ўжо стол.

З вялікае місы, якая стаяла пасярод стала даносіўся такі прыемны пах клустае капусты, здаецца ўжо гэта магло-б паправіць настрой, але дзе там,—Міхал сеў пахмурны. Спрабаваў лыжку і, як на грэх, капуста была крыху не дасолена.

— „Солі мала"!

Буркнуў ён сабе пад нос. Жонка выслала дачку ў клець па соль. Міхал гэты час моўчкі баўтаў лыжкаю ў місе, дзяўчынка забаўлялася ў клеці нешта доўга, Міхась ня стрываў.

— „Солі"!—зачаў ён басам. „Солі"! крыкнуў ужо альтам, „Со-лі"! перайшоў дыскантам, „С-о-л-і"! аканчальна страціўшы цярплівасьць і раўнавагу.

Дачку прынёсшую соль са спазненьнем прагнаў ад стала.

Старэйшы сын, неяк ужо дужа лоўка зьбіраўшы плаваўшыя паверх капусты пацеркі клустасьці, дастаў лыжкай у лоб.

Бліны сёньня былі спаленыя, сала недасмажанае, ну і дасталася-ж беднай жонцы, вылічаў ён ёй усіх сваякоў, перабіраючы па косточках, хто, які, дый рашыў, што такой гаспадыні не каля печы месца, а пры сьвіньнях.

Што зробіш, псавалі гумар Міхалу і за сталом, але-ж ізноў так заўсёды бывае: дрэнны гумар, дык кожны нешта ад сябе далажа і сапсуе яго да нічога.

Пасьнедаўшы пайшоў Міхал у клець крыху заснуць, але ў клеці ён доўга круціўся з боку на бок, зімна неяк было, пайшоў у хату, там горача; дасталося ізноў жонцы, што так напальвае. „Дроў не шкада, ёсьць Міхал будуць і дровы, што-ж

Для зьдзейсьненьня гэнай задачы, як мы бачылі, зьяўляюцца добрымі ўсякія спосабы: і правакацыя, і даносы, і тэрор, і подкуп, усё гэта зьяўляецца добрым, калі ідзе аб выпаўненьне прыказаў партыі.

Але ёсьць адна галіна нашага маркотнага жыцьця, якую выкарыстоўваюць бальшавілі для сваіх мэтаў болей, чым якія-небудзь іншыя, гэта галіна нашага беларускага грамадзкага жыцьця.

Ведаючы добра аб тым, што камуністычныя ідэі, а асабліва рэалізацыя іх у тых хвормах, якія мы бачым на Усходзе ў Саветах, ня могуць карыстацца прыхільнасьцю нашага сялянства і знайсьці паміж ім староньнікаў, і дзеля гэтага пашырэньне і ўзмацаваньне камуністычнай партыі на нашых зямельках спатыкае вялікія перашкоды, бальшавікі стараюцца падпарадкаваць сваім уплывам існуючыя на нашых зямельках беларускія грамадзкія арганізацыі, каб зрабіць іх паслушным аружжам у сваіх руках, а калі гэта не ўдаецца — разьбіць іх.

З гэтай мэтай у існуючыя грамадзкія беларускія арганізацыі яны адкамандзіроўваюць сваіх партыйных людзей. Людзі гэныя ў працы арганізацыі прымаюць актыўны ўдзел, зьяўляюцца дзеяльнымі сябрамі яе, здабываюць сабе прыхільнікаў паміж шэрай, вельмі часта інэртнай масы сяброў арганізацыі, дастаюцца на адказныя становішчы ў гэтых арганізацыях і гэткім чынам здабываюць сабе паволі ўплыў на ўсё жыцьцё арганізацыі, каб, у пэўны мамэнт, выкарыстаць іх для мэтаў камуністычнае партыі. Калі ўдалося ім гэткім чынам „асядлаць“ арганізацыю і прыбраць у свае рукі, так што праца яе ідзе ў кірунку пажаданым для камуністых, арганізацыя працуе далей і яны ўсялякімі спосабамі стараюцца падтрымаць яе. Калі-ж гэта ім не ўдаецца і, ня глядзячы на іх стараньні тая, ці іншая арганізацыя вядзе сваю лінію ня згодна з мэтамі камуністычнае партыі, тады ўплывы свае камуністыя стараюцца выкарыстаць у тым кірунку, каб разьбіць яе.

Спосабаў на гэта яны маюць шмат. Насамперш правакацыя і данос. Правакацыйныя выступленьні свае яны задумваюць і вядуць іншы раз вельмі спрытна, так, што гледзячы з боку, вельмі трудна дагадацца, чыя рука кіруе імі, а найчасьцей аднак брудная іх работа ярка кідаецца ў вочы, так што адразу можна распазнаць яе мэты.

Яскравым прыкладам гэткай спрытнай правакацыі, маючай на мэце разьбіць адну з беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, было падняцьце на агульным сходзе Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні, арганізацыі бязумоўна апалітычнай, справы ярка палітычнага зьместу. Дзеля таго, што ў Студэнскі Саюз уваходзяць людзі розных палітычных пераканаьньяў, ведама, пастаноўка гэткай справы магла мець на мэце адно: змусіць частку студэнтаў да выхаду з гэтай арганізацыі— аслабіць альбо разваліць яе. Правакацыя не ўдалася, але мэты не былі зусім ясныя.

Больш грубая правакацыйная работа зводзіцца да пачынаньня камуністымі пад этыкетай той ці іншай культурнай ці гаспадарчай грамадзкай арганізацыі, бяз ведама яе кіруючых органаў, свае палітычнае, чыста камуністычнае працы: распаўсюджаньня камуністычных праклямацыяў, тварэньне камуністычных гурткоў, заклікапьне да вострых выступленьняў і г. д., адным словам, упутваньне гэтай арганізацыі ў працу забароненую дзяржаўнаю уладаю. У такіх варунках вельмі часта ўрадавыя кругі і шырэйшыя кругі грамадзянства пачынаюць глядзець на ўсю арганізацыю, як на нейкую экспозытуру камуністычнае партыі і на падставе гэтага ўкладаць свае адносіны да яе. Пры гэтым камуністыя, як кожная, урэшце, нелегальна працуючая, а асабліва рэвалюцыйная арганізацыя, маючы цесную сувязь з органамі палітычнага сыску, апаганьваюць пры помачы даносаў людзей, нічога супольнага з камуністымі ня маючых і адначасна выгароджваюць сваіх партыйных таварышоў.

Бывае аднак і так, што да тэй ці іншай арганізацыі яны дастуніцца ня могуць, а нават і дастуніўшыся ня могуць здабыць ніякага ўплыву і дзеля гэтага правакацыя ня можа асягнуць ніякіх рэзультатаў. Тады камуністыя, каб разьбіць арганізацыю, альбо аслабіць яе, пачынаюць вясь-

---

чорны вол можа працаваць, покі дух ня вылезе“, крычаў ён, а ў канцы хлопнуў дзьвярыма і зноў выйшаў на ганак.

„Ах, каб вы скрозь зямелечку праваліліся“! кляўся Міхал, „Вось кожны так і мяркуе, каб з цябе ўсякую цярплівасьць вырваць. Ух, гады палавыя“! Закончыў ён свае думы і злы абапёрся аб поручні ганку.

Раптам яго ўвагу зьвярнуў нейкі шэлест і варушэньне ў бульбе, якая была пасаджана на агародзе, ён услухаўся, так нехта пахрюковае ад задаваленьня, безварункова нечы парсюк працаваў у яго бульбе.

Міхал настаражыўся, — пайшоў паглядзець, праўда, як раз у найлепшым кавалачку яго бульбы адважна распараджаўся нейкі незнаёмы, вялікі, рабы парсюк.

Ён з такім захапленьнем усаджваў свой рыч у баразны, падыймаў зямлю, пасьля падкідаў свой пятак угару, абсыпаючы вялікія абвісшыя вушы сырой зямлёй, а ў зубах блішчэла жоўтая бульбіна.

І парсюк быццам надсьмейваючыся над гаспадаром, смакуючы і з задаваленьнем хрупаў сьвежую бульбачку.

Ненавісьць да парсюка, які ў такі бесцэрэмонны спосаб, гранічучы ўпрост з нахальствам зьніштажае тое, што ён зарабіў крываваю працай, ахапіла сэрца Міхала.

Ён ужо не хацеў ратаваць бульбы, жаданьне помсты закіпела ў ім, а разам з тым абудзілася першабытнае пачуцьцё паляўнічага.

Міхал асьцярожна, ня пужаючы парсюка, адсунуўся назад і пабег да хаты. Ён рашыў загнаць парсюка ў хату і аддаць толькі па заплаце шкоды, галоўнае Міхась не ведаў, чый гэта быў парсюк.

„Пётра, Янка, Антусь!“ закрычаў ён на сыноў, „іш гультаі ў хаце сядзяць, а і ня бачаць, што парсюк у шкодзе“.

Хлопцы зьбегліся, спужаныя гвалтам, у момант.

„Ну бярэце кіі і гайда за мной!“ закончыў ён праве шопатам. Тыя стаялі зьдзіўваныя:

— „Чаго?“ спытаўся Янук.

— „Ах, ты ліха на тваю галаву“, гаркнуў бацька. „Парсюк нечы ў нашай бульбе, а яны

ці закулісную работу, якая мае на мэце апаганіць у вачох грамадзянства людзей, займаючых віднае становішча ў гэных арганізацыях.

Пачынаецца гэная работа ад распаўсюджваньня сярод грамадзянства розных фальшывых вестак аб тым ці іншым чалавеку, у якіх закранаецца яго прыватнае жыцьцё, выліваюцца на яго галаву цэлыя рэкі брудаў і памыяў. Вельмі часта, як крыніцу гэных плётак, называюць таго ці іншага палітычнага аднадумца гэтага чалавека — гэта з мэтай каб пазвадзіць паміж сабою людзей працуючых дагэтуль згодна — і калі ўжо гэткім чынам грунт падгатававы, на старонках часопісаў апанаваных бальшавікамі, кідаецца слова: дэфэнзыўшчык, здраднік, прадажнік, правакатар. Пры цемнаце і малой культурнасьці нашага сялянства, у варунках масавай правакацыі бальшавіцкіх агентаў, ахвярамі каторай палі сотні і тысячы беларускіх сялян, каторыя чуюць гэную правакацыю, гэтую здраду і прадажнасьць навакол сябе, бачаць ахвяры яе — ня ведаючы толькі, дзякі сваёй цемнаце і палітычнай малаграматнасьці, з якога боку ідзе гэная правакацыя, прадажніцтва і здрада — такі покліч у газэце, жыруючай на горы і цемны народнай — робіць сваю работу.

Вось жменя кветкаў з букету тактыкі бальшавікоў на нашай зямельцы, тактыкі, каторая ў імя шумлівых лёзунгаў абароны працоўных мас, па дарозе да сусьветнай рэвалюцыі, нішчыць дашчэнту нашыя грамадзкія арганізацыі і заражаець паветра гаротнага жыцьця нашага сялянства атрутай прадажніцтва, правакацыі, здрады і даносаў. Нашае грамадзянства павінна ўрэшце пазнаць праўдзівы твар гэтых няпрошаных „абаронцаў“ працоўных гушчаў, і з агідай адвярнуцца ад таго моральнага бруду, які, як тлень некая, разьядае нашае жыцьцё.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

## З савецкага жыцьця.

Цэнтральны камітэт Камуністычнае Партыі (б.) Беларусі ўсьцяж ламае галаву над выпаўненьнем пляну „хлебазагатовак“ і „пазыкі ўзмацненьня сельскай гаспадаркі“.

К. П. (б.) Б. б'е трывогу, бо плян „хлебазагатовак“ дагэтуль выпаўнены паводлуг „Савецкай Беларусі“ толькі на 45—50 процантаў, а плян пазыкі ўсяго толькі на 30 процантаў, а да канца падпіскі на яе засталося менш чым два тыдні.

Гэтак канчаюцца патугі бальшавікоў наладзіць эканамічнае жыцьцё ў Саветах.

У гэтым няма нічога дзіўнага, бо ўсім ведама, што бальшавікі ўмеюць толькі руйнаваць, а калі бяруцца да творчае працы, то з гэтага выходзіць адзін сьмех.

Вось яшчэ адзін прыклад „творчай“ працы бальшавікоў у саветах, які перадрукоўваем дасloўна з № 68 за 21 сакавіка газэты „Савецкая Беларусь“:

### „Як Белсельтрэст зрывае пасеўную кампанію“.

У нас ужо пісалася аб тым, што па савецкіх гаспадарках было забраніравана для сельскагаспадарчай каапэрацыі 40.000 пуд. насеньня аўса. Гэтае насеньне прызначалася для забясьпечаньня сялянства да вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Белсельсаюз разьмеркаваў па сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах гэты насенны авёс і, здаецца, ўсё павінна абстаяць добра.

Але гэта здаецца нам, а вось пабачым, што атрымалася на мясцох.

**Нічога не дадзём...**

Пясочанскае с.-гасп. крэдытнае таварыства наняло 9 сялянскіх падвод, якія паехалі за 30 вёрст у савхоз „Негарэлае“ за насеньнем.

Прыехалі. А ў сахвозе кажуць:

— Нічога вам не дадзём. Ну, і не далі, так і прыйшлося падводам ехаць паражняком да хаты.

---

яшчэ разводзяць стоячы, бярэце, кажу, палкі і хутчэй забярэм у хлеў“.

Міхал асьцярожна з асінавым калком высунуўся з хаты на двор, а за ім хлопцы, хто з качаргой, хто з метлаўём.

Міхал відаць хацеў запраўднае паляваньне зрабіць, ён стаў ад вуліцы, а сыноў расставіў з другіх бакоў, яны гурбой пачалі ціха пасоўвацца да парсюка.

А той саўсім не прадчуваючы бяды, відаць сьвіньні прадчуцьця ня маюць, аплятаў сабе бульбу, як ня ў чым і ня бывала.

Вось вялізарная бульбіна, велічынёю з гусінае яйко гіне ў ненажорным лычу, ня вытрывала Міхалава сэрца і ён з дзікім гатуканьнем кінуўся да парсюка, той адразу спыніўся і зьдзівавана ўглядаўся, пасьля, зразумеўшы небясьпеку, дзіка вохкнуў і кінуўся на ўцёкі.

Але не патрапіў адкінуцца ў другі бок, як перад ім зьявілася фігура Пятрука з качаргой. Парсюк зрабіў адступленьне ў другі бок, але-ж з тым самым вынікам і ён зачаў кідацца ўва ўсе бакі, ўзьвізгіваючы і вохкаючы на ўсе лады; спуджаны на сьмерць ён крупіўся, як чорт, кідаючыся загнаць сябе на Міхасёў двор.

Кідаўся ён у бок, яго даганялі і зварочвалі, круг паляўнічых-аматараў усё больш і больш звужаўся, а парсюк саўсім змучаны ўжо нават ня віжжаў, толькі з рэдкім хрыпучым вокханьнем кідаўся, куды мог.

Каля плоту сабралася грамадка сялян, яны рагочучы і дакідваючы свае ўвагі прыглядаліся нязвычайнай аблаве, дразьнячы Міхала яшчэ больш.

Ён не зважаў ужо ні на што і, ганяючыся па агародзе, да нічога зьбіў і стаптаў сваю бульбу, робячы большую шкоду, чымся парсюк.

У канцы парсюк ледзь жывы, спрабаваў апошняга выхаду, відаць не жадаючы здыхаць ад змучаньня, ён з дзікім піскам кінуўся пад ногі Міхалу, ледзь не заваліў яго, ды з трыумфуючым крюканьнем памкнуў у чыстае поле, кіруючыся ў балота.

Што-ж заставалася Міхасю, дараваньне няведама чыйму стварэньню шкоды, свае беганіны, насьмешкаў суседзкіх і т. д. і т. д.

Праўда, таварыства ўсё-ж заплаціла сялянам звыш 30 руб.

А зараз сяляне пытаюцца.

— Дзе-ж, кажуць, нам атрымаць насеньне аўса?

Калі ласка, вярнеце нашыя грошыкі, што дарэмна выкінулі...

**У саміх няма, а вы просіце...**

Прыходзяць прадстаўнікі Грозава-Пухаўскага сельск.-гасп. крэдытнага таварыства ў савхоз Аткулавічы.

— Так і так, — кажуць, — вось у нас нават і паперка ёсьць, адпусьцеце 150 цэнтнараў аўса, што нам даручана Белсельсаюзам.

— Які вам авёс, мы самі маем нарад ад Белсельтрэсту, каб для ўласных патрэб атрымаць 38 цэнтнараў аўса з савхозу „Цімкавічы“,—адказаў нашым каапэратарам прадстаўнік савхозу „Аткулавічы“.

Так і пайшлі ні з чым.

**Забраніравалі, ды не за вамі...**

Працаўнікі Заслаўскага с.-гасп. крэдытнага таварыства таксама паведамляюць, што сав. гасп. Селец не адпусьціла ім па нараду 160 цэнтнараў аўса. Нават загадчык гэтага савхозу і справачку даў, што ўвесь лішак у 350—400 пуд. аўса Белсельтрэст забраніраваў для савхозу „Тарасава“.

Ёсьць весткі з Цімкавіч...

Добрыя весткі, што і гаварыць.

Было ў савхозе на 4 сакавіка каля 1000 пуд. аўса, але...

Ен ужо выдадзены па нарадах Белсельтрэсту савхозам Савічы, Аткулавічы і яшчэ аднаму. Нам, кажуць, самім прыдзецца застацца без аўса, ці завозіць яго з іншых месц...

Пішуць аб гэтым з Цытвы, пішуць яшчэ з іншых пунктаў, але досыць ужо і гэтых фактаў.

Як бачыце, весела на мясцох,—злуюцца па савхозах, злуюцца працаўнікі с.-гасп. каапэрацыі, злуецца і сялянства, сустракаючы пустыя падводы.

Б. З—ў.

Туткі мы ясна бачым, як „творчасьць“ бальшавікоў забясьпечыла сялянства да вясеньняй пасеўнай кампаніі ў Савецкай Беларусі.

# Корэспондэнцыі.

**Смаргоні** (*Ашмянскага павету*).

Ёсьць у нас алеярня, якая з канаплянага альбо льнянага семя дастае алей.

За пераробку аднаго пуда семя алеярня бярэ два злотыя.

Ведама, макухі, якія застаюцца пасьля гэтай пераробкі, сяляне забіраюць сабе, як цэнны і вельмі спажыўны корм для жывёлы. Аднак ня ўсе гаспадары ведаюць аб вартасьці макухаў і на гэтым спэкулюе ўласьнік алеярні.

Распазнаўшы гэткага цёмнага чалавека, ўласьнік алеярні заклікае яго на бок і пачынае з ім гутарку:

— Асан прывёз семя?

— Але прывёз. А колькі трэба будзе заплаціць за пуд?

— За пуд? ад людзей бяру два злотых, але асан, бачу, чалавек бедны, дык дарма зраблю, няхай маё пяройдзе. Пакінеш затое мне макухі. Толькі, ша! не кажы нікому.

І цёмны гаспадар, які ня ведае, якую карысьць можа мець у гаспадарцы свае з макухаў, ня ведаючы цаны іх, з падзякай згаджаецца на прапазыцыю нясумленнага ўласьніка, які, згадзіўшыся „задарма“ перарабіць семя, прадае пакінены гаспадаром макухі па 6 злотых за пуд і болей. А трэба ведаць, што з аднаго пуда семя атрымліваецца амаль адзін пуд макухаў, бо заместа выціснутага з семя алею, дадае спэкулянт да макухаў вады.

Вось гэткім чынам, дзякі цемнаце сялян, гэткі спэкулянт зарабляе пры пераробцы толькі аднаго пуда цэлых 4 злотых і яшчэ застаецца „дабрадзеем“ *С. К.*

---

Не, ён не даруе, і з высока паднятым калком, Міхал рынуўся на ўздагонкі. Лоўка павярнуўся калок у сільных руках і з вуркатнёй, трэба-ж трафу, кройнуў парсюка між вушэй.

Парсюк дзіка раўнуў і зваліўся на зямлю на месцы.

Міхал, рабяты, суседзі, падбеглі да яго; быў мёртвы, адно з канвульсыйна расчыняючайся ляпы лілася цёмная кроў, хварбуючы яго лыч, вушы і расплываючыся па іржышніку.

Цяпер Міхал стаяў задумаўшыся над парсюком; ўвесь запал, ўся злосьць прапалі адразу, як быццам яго хто зімнай вадой акаціў, факт застаўся адзін, за парсюка трэба было плаціць.

Калі і злы, дык ужо выключна на самаго сябе, ён з помаччу хлапцоў перацягнуў парсюка на свой панадворак.

Вялізная туша, парсюк відаць быў падкормлены, раскінулася непарушна на дварэ, ўсё яшчэ плямячы зямлю крывёю.

Нехта з суседзяў апазнаў парсюка, гэта быў кармлёнік Марковіча з суседняе вёскі; нехта пабег да яго. Міхал стаяў панураны і саўсім бязрадны.

„Вось, ліха, ўсякая дрэнь, а так і мяркуе, каб табе неяк напаскудзіць. І ліха-ж нясло гэтую скаціну у бульбу“ круцілася ў яго галаве.

На вуліцы затарахцелі калёсы, прыехаў уласьнік жывёліны са сваёй жонкаю. Баба, ведама, як баба, кінулася ў плач, а мужык лаяўся.

Сабралі панятых. Абсудзіўшы справу рашылі, што Міхал аддасьць у замен свайго кармлёнічка, дый яшчэ з грашовым дадаткам, нават па адлічэньні шкоды.

Што-ж было рабіць? Міхал згадзіўся і моўчкі глядзеў, як Марковічы забіралі яго жывёліну, дадатак даплаціць ён абавязаўся пасьля ўпраўкі.

Разыходзіліся сяляне, а Міхал усё стаяў над забітым парсюком і ўглядаўся няма ведама чаму на акрываўлены пятак.

А ў паветры цягнуліся і цягнуліся, імкнучыся ў сінюю даль, белыя ніці, то сплятаючыся, та расплятаючыся ізноў.

Навакол было гэтак ціха. Стаяў прыгожы восенскі дзень.

Б.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Кармавыя буракі — найлепшая паша для кароў.

Чым менш мае селянін зямлі, тым больш павінен хадзіць каля яе, каб атрымаць большы ўраджай з малога свайго куска зямлі.

Зямля-ж, ведама, любіць дбайлы за ёю дагляд і такому дбайламу гаспадару адплачвае стократ. Але мала толькі аднае управы зямлі і дагляду яе. Селянін павінен ведаць, якое збожжа дае больш даходу і больш поля аддаваць пад гэтае збожжа. Прызнанай усімі праўдай зьяўляецца тое, што найбольшы даход дае ў гаспадарцы жывёла: каровы і сьвіньні (коні не). А каровы толькі малочныя, бо калі карова не дае малака, дык паша, якую яна зьядае, прападае дарма. Але кожная карова дасьць малака столькі, што яго хопіць ня толькі на сваю патрэбу, але і на прадажу ў малачарню малаком, ці сырамі і маслам на рынку, толькі трэба ўмець гэтую карову карміць. Ад сена і саломы малака ў каровы ня прыбудзе, трэба даваць такі корм, які, як кажуць, гоніць малако.

Такой пашай для кароў зьяўляюцца кармавыя буракі. У нас іх мала сеюць, а дзеля гэтага так мала ў нас малачарняў, дзеля гэтага малы даход мае ў нас гаспадар з каровы, якая часта не дае зусім у працягу некалькіх месяцаў малака. Так быць не павінна. Трэба сеяць якнайбольш кармавых буракоў, трэба пад буракі браць больш поля, добра яго ўпраўляць і даглядаць, а тады напэўна паправім свой дабрабыт.

Ёсьць сельскі край, як і ў нас, беларусаў— Данія. Зямля там ня лепшая, чымся ў нас. Але дацкія гаспадары багатыя людзі, бо ўжо даўно займаюцца гадоўляю добрых кароў і разьвялі добрыя малачарні. Дацкае масла найлепшае і найдаражэйшае ў сьвеце. Там пад кармавыя буракі бярэ гаспадар 1/4 часьць усяго свайго поля. Прыйдзе той час і для нас, беларусаў, калі пачнем разводзіць кармавыя буракі, бо толькі з гадоўлі добрых кароў і добрага за імі дагляду здолее атрымаць гаспадар столькі даходу, колькі хопіць яму на ўсе патрэбы. Паглядзім толькі кругом сябе. Гадоў таму 50, а мо' і меней многа менш было патрэбаў, дык і даходу трэба было ня столькі. Селянін, апрача солі і гвозьдзяў, нічога амаль ня купляў, дзяцей ня вучыў, кніжак і газэтаў ня чытаў. Паліў лучыну, замест лямпы, гараў дзеравяннаю сахою, замест плуга, езьдзіў на дзеравянным вазе, цяпер езьдзіць на жалезным. На ўсе гэтыя патрэбы трэба знайсьці даходу з гаспадаркі ў шмат разоў больш, чымся яна давала калісьці. А тут, ведама, зямлі ня прыбыло, а то й убыло нават. Дык ратунак адзін — шукаць трэба такіх способаў гаспадаркі, якія далі-б больш даходу.

Адным з такіх способаў зьяўляецца малачарня, у якую зносяць сяляне некалькіх вёсак малако. Яно там перарабляецца на масла, масла вывозіцца заграніцу, а кожны селянін штодня атрымлівае некалькі залатовак за малако ад сваіх кароў. Каб-жа дастаць гэтае малако трэба больш гадаваць кармавых буракоў, гадаваць іх умела. Кармавыя буракі зьяўляюцца найлепшай пашай для быдла, асабліва для дойных кароў. Кормячы імі каровы, гаспадар атрымлівае вельмі добры гной, якім можа лепш папраравіць поле.

**Ці на кожнай зямлі растуць кармавыя буракі?** Кармавыя буракі не ўдаюцца на землях сухіх, пясчаных і замокшых. На ральлі сухой і пясчыстай лепш садзіць кармавую моркву. Але на ральлі пад лугамі, на глiністай і тарфяністай растуць добра. Добра растуць таксама на землях сярэдніх і сыпністых. Бурак расьце перад усім на зямлі добра ўпраўлянай, ачышчанай ад хвашчоў і зельля, добра ўгноенай і сярэдня сырой. Найлепш садзіць буракі па жыце, па канюшыне, па ўгноеным папары. Ніколі нельга садзіць буракоў пасьля аўса. На добрым грунце растуць буракі пасьля бульбы. Пасьля буракоў садзіць іх другі раз падрад ня варта, бо вельмі выялаўляецца зямля. Пасьля буракоў добра ўдаецца збожжа каласістае (авёс, ячмень, жыта).

Зямля пад буракі павінна быць добра прыгатаванай. Да гэтага трэба прыступіць яшчэ з восені, зараз пасьля жніва. Трэба мелка заараць пожню (іржышча), каб не дазволіць дасьпець і асыпаць насеньне зельлю, пасьля выбаранаваць і ў самую восень, навёзшы гною, ня менш 30 вазоў на 1/2 дзесяціны, глыбока заараць. Зямлю ўпраўляць трэба так, каб яна была бяз зельля і добра перарobленая. Але што рабіць, калі хто не зрабіў гэтага з восені, што ён мае рабіць цяпер, вясною, калі хоча сеяць кармавыя буракі і мець добры збор?

Калі ральля чыстая, трэба вывязьці гной і мелка згараць. Пасьля баранаваць, ачышчаць зямлю ад зельля, баранаваць трэба глыбока жалезнай бараною ці культыватарам. Баранаваць трэба некалькі разоў. Перад самым пасевам канечне трэба зваляваць зямлю, дзе маем садзіць буракі, валам. Чым лепш увалуем грунт, будзе лепшы ўраджай. Валаваць можна тады, калі зямля сыпкая, у пагодны, цёплы дзень і ня большы кусок зямлі, чымся можам за дзень засадзіць буракоў. Садзіць, баранаваць і валаваць ральлю пад буракі можна толькі ў пагодныя дні, інакш зямля зараз прыб'ецца дождж ыкам, і гэта шкодзіць.

Найлепшым угнаеньнем пад буракі зьяўляецца гной з хлява каля 30 вазоў на 1/2 дзесяціны. Буракі вельмі пражорлівыя і вымагаюць добрага ўгнаеньня.

Добра даваць і штучныя гнаі, але трудна падаць рэцэпт, бо колькасьць штучнага гною залежыць ад ральлі. Найлепш, калі кожны гаспадар будзе рабіць пробу на сваім полі, адвёўшы кусок пад г. зв. пробны палетак. Пад буракі найлепш надаюцца з штучных гнаёў: чылійская салетра, або салетра хожаўская г. зв. nitrofos, азатняк, kainit, супэрфосфат і паташовыя гнаі.

Салетру, ці nitrofos даем у дзьве даўкі, перад пасевам і пасьля ўсходу. Азатняк кідаем на ральлю за 2-4 тыдні перад севам. Супэрфосфат за некалькі дзён перад севам, асабліва добра надаецца супэрфосфат на грунтох вапністых. Таксама добра даваць паташовыя гнаі, асабліва на грунтох цяжэйшых за некалькі дзён перад пасевам. На лёгкіх грунтох даецца каініт за 3 тыдні перад севам і ўвосень. Вапнаваньне грунту таксама добра аплачваецца. Садзіць буракі трэба та-

ды, калі ўжо ўстановіцца цяпло. Каб прысьпяшыць усход буракоў, трэба насеньне намачыць на 24 гадзіны ў цёплай вадзе і перад пасадкай высушыць на плахце. Садзіць трэба ня глыбока на 1-2 сантымэтры, у лёгкіх грунтох да 2 сантымэтраў.

**Дагляд буракоў.** Кармавыя буракі вымагаюць стараннага дагляду, мо' найбольш стараннага, чымся іншыя збожжы. Зямля пад буракі павінна быць заўсёды сухая і вольная ад зельля. Трэба якнайчасьцей матыкаваць зямлю так, каб паміж буракамі ніколі не завялося зельле, а зямля ня была заскарупеўшай. Калі ўзойдуць буракі і выпусьцяць 4 лісткі, трэба пазрываць лішнія з такім вылічэньнем, што ад бурака да бурака павінна быць 25 сантымэтраў. Матыкаваць трэба якнайчасьцей, бо чым больш будзем матыкаваць, тым лепшы будзе ўраджай. Усе гэтыя работы трэба выконваць у пагодныя дні. А найгалаўнейшае — кожную работу пры даглядзе за буракамі трэба выконваць старанна і добра.

Пры добрай управе кармавых буракоў, з 1 дзесяціны можна мець 9.000 пудоў, а сярэдні збор з дзесяціны 4.000—5.000 пудоў. *С.*

---

## Як даглядаць паросную сьвіньню.

Пасьля кароў хіба сьвіньні даюць найбольшы даход у сялянскай гаспадарцы. А ў нас беларусаў мо' нават больш дае гадоўля сьвіней, чымся кароў. Аднак, каб мець даход, жывёла вымагае ўмелае гадоўлі, бо толькі пры добрым даглядзе і ўмелай гадоўлі як кароў, так і сьвіней будзе мець гаспадар карысьць ад жывёлы.

Паросныя мацёры павінны мець старанны дагляд, асабліва ў другой палове пароснасьці. Трэба высьцерагацца доўгіх перагонаў сьвіньні, раптоўных рухаў, пужаньня сабакамі і г. д. Сьвіньня павінна быць як найбольш на сьвежым паветры. Дзеля гэтага найлепш для паросная сьвіньні пасьвіцца на пасьбішчы, дзе ёсьць добрая пажыва і свабодны ўмераны рух. Неадпаведная паша, як напр. сьвежае жыта, заражанае спарышамі, можа вызваць перадчасны парод.

**Карміць мацеру трэба добра, але ў меру.** Корм пашай, ад якой клусьцее сьвіньня, таксама дрэнны, бо ўпасеная мацёра родзіць слабых парасят, а сама становіцца цяжкою, што можа быць небясьпечным пры пародзе. Асабліва асьцярожна трэба карміць старых мацёраў, бо маладыя, якія паросяцца ў першы раз, вымагаюць болей корму дзеля таго, што яны яшчэ растуць.

У першую палову пароснасьці (8 тыдняў) кармленьне старых мацярок павінна быць скупое, без упасьлівай пашы. Трэба даваць мякіну, запараную сечку з канюшыны з дамешкай запаранай бульбы. Летам аж надта даволі будзе пашы на пасьбішчы, калі яно добрае, або пашы з маладой зеляніны. У другой палове пароснасьці, пачынаючы ад 9-га тыдня, трэба дадаваць лепшай пашы (вотрубі, мука). Паша мусіць быць лёгкастраўная і неаднальковая. Напр. вотрубі, ячменная мука, морква, буракі, параная бульба, а летам зеляніна.

**Мінэральныя солі, як канечны дадатак да пашы.** Асабліва ў апошнія месяцы пароснасьці трэба помніць аб тым, што да корму мусім дадаваць мінэральных соляў—як вапны, вапністага фосфорану, кухоннае солі, бо гэтыя солі ўзмацняюць косьці парасят, якія будуць большыя і лепш расьлявыя. Наагул трэба помніць, што паросная сьвіньня мусіць даставаць мінэральных соляў, бо без іх прыплод заўсёды будзе слабы і малы, а самыя мацёры, калі не дастаюць вапны і солі, надта аслабяваюць пасьля парасеньня.

**Вада да пойла заўсёды павінна давацца пад дастаткам.** Трэба зразумець, што сьвіньням павінна давацца асобна ад пашы вада да піцьця. Паросныя-ж мацёры п'юць больш вады і часта.

*„Kultura“.*

---

## Як і чым корміцца расьліна.

*(Далейшы працяг).*

Расьліна ня мае губы, якой магла-б есьць спажыву, а ўцягвае ў сябе спажыву сваімі карэньнямі. Карэньні толькі тады могуць цягнуць з зямлі спажыву, калі яна распушчана ў вадзе, інакш кажучы, калі яна знаходзіцца ў вадзяністым стане.

Дасьведчаньні пры гадоўлі расьлін у вазонах паказалі, што з тых спажываў, якія ў вадзе не распушчаюцца, расьліны зусім не карыстаюць, хаця-б іх як найболей было ў зямлі. Чым лягчэй спажыва распушчаецца ў вадзе, тым ахватней расьліна ўцягвае яе ў сябе і тым буйней расьце. Гэтая апошняя ведамасьць вельмі важная для земляроба. У гнаі знаходзяцца ўсе часьці, служачыя расьлінам за спажыву.

Кожны земляроб павінен рупіцца, каб уся спажыва, якая знаходзіцца ў гнаі, была праз засеяныя расьліны спажыта і каб усе расьліны, засеяныя на завораным гнаі, з спажывы роўна карысталі.

Расьлінныя спажывы, якія знаходзяцца ў гнаі, тады толькі распушчаюцца ў вадзе, калі гной цалком у зямлі згніе. Таму трэба гной растрасьці як найдрабней, бо чым большыя гурбы гною заораны, тым трудней яны гніюць. Там, дзе паветра не даходзіць, нічога гніць ня можа; таму трэба гной заворваць мелка, чым цяжэйшая зямля, тым мялчэй, каб паветра мела прыступ да гною, бо тады ён хутчэй гніе, а расьліны з яго найбольшую адносяць карысьць.

Гной, заглыбока заараны, а груба і няроўна раскіданы, ня раз па некалькі год ляжыць у зямлі, сьцьвярдзее, а ня згніе, бо паветра ня мае да яго прыступу; з гэтак заворанага гною малая карысьць расьлінам. У шмат якіх ваколіцах малазямельныя гаспадары заглыбока заворваюць гной і гэтым самым паносяць страты.

### Вугаль.

Вугля маюць у сабе расьліны шмат. У стофунтах сухога збожжа ў саломе знаходзіцца блізка 80 фунтаў самага вугля. Як ужо папярэдня мы сказалі, вугаль бяруць расьліны з паветра. У паветры знаходзіцца газавае цела, якога вокам людзкім не пабачыш, званае вугальным квасам. Вугальны квас складаецца з двух чыньнікаў: з тлену і вугля, ён выдзяляецца з гніючых і палючыхся прадметаў. Людзі і жывёла пры дыханьні выдзяляюць з лёгкіх паветра, у якім знаходзіцца шмат вугальнага квасу. Дзеля таго, што шмат целаў на зямлі гніе і паліцца і мно-

ства людзей і жывёлы бязустанна дыхае, дык вугальнага квасу ў паветры ёсьць шмат. Лісьцьцё ўсіх расьлінаў маець маленькія дзірачкі, якімі ўцягваець у сябе з паветра вугальны квас. Пад уплывам праменьняў сонца вугальны квас, уцягнены праз лісьцьцё расьлінаў раскладаецца на кіслярод і вугаль. Кіслярод назад вылятае ў паветра, а вугаль астаецца ў расьліне. Увесь патрэбны запас вугля бярэ расьліна ў гэты спосаб з паветра і здавалася-б, што земляроб не патрабуе думаць аб тым, каб вугальны квас быў у зямлі, бо расьліна ня чэрпае вугальнае спажывы з зямлі.

Так аднак ня ёсьць. Вугальны квас, які знаходзіцца ў зямлі, лучыцца з грунтовай зямлёй, а ў такой вадзе далёка хутчэй і лягчэй распушчаюцца ўсе расьлінныя спажывы, чымся ў чыстай вадзе. Бачым тады, што вугальны квас у зямлі ёсьць для расьлін вельмі патрэбны і кожны земляроб павінен дбаць аб тое, каб яго ў зямлі не забракла.

Вугальны квас у зямлі атрымаем заворваючы гной, ржышча, торф, лясную сьцёлку, лубін.

## Прыгатаваньне зярна да пасеву.

Вельмі важнай справай зьяўляецца прыгатаваньне добрага зярна для пасеву.

У нас гэтая справа запушчана і ў прыгатаваную для пасеву ральлю з накладам працы і коштаў кідаецца рознае зярнё — добрае і благое, а нават насеньне зельля, якое глуміць збожжа.

. Кітайскі селянін, які мае вельмі мала зямлі, велічынёю з наш малы гародчык—перад пасевам рыжу перабірае рукамі кожнае зярнё і сее толькі адборнае. Нашыя сяляне ў параўнаньні з кітайскімі зьяўляюцца абшарнікамі, яны ведама ня могуць перабраць кожнага зярняці ў руках, але павінны ўсё такі, падобна кітайцу, старацца выбіраць для севу толькі адабранае зярнё, якое кінутае ў ральлю, ня згіне, а дасьць жаданы плод і ўраджай.

**Сеяць трэба толькі добрае адборнае зярнё.** Такім зярнём будзе роўнае, поўнае, цэлае і здольнае да келкаваньня зярнё без сьмяцьця і зельля.

Каб атрымаць такое насеннае зярнё, трэба перад севамканечне ачышчаць яго ў трыеры, спэцыяльным млынку для ачышчаньня збожжа ад сьмяцьця, насеньня зельля і нягоднага для пасеву збожжа.

Пасеў такім, прапушчаным цераз трыер два разы, збожжам дасьць лепшы ўраджай і роўны ўсход здольных да жыцьця расьлінак. Толькі ачышчаючы збожжа трыерам, здолеем ачысьціць ральлю ад зельля, якое нішчыць пажыўныя і зародчыя сілы грунту.

Сеяць адабранае збожжа лепш больш мелка, чымся глыбока. Глыбокі пасеў перашкаджае прарастаньню дзеля недахопу паветра, а расток, прабіўшыся цераз грубы слой зямлі, будзе ўжо аслаблены. Яшчэ горш, калі гэтае збожжа пасеяна на няроўнай глыбіні, як гэта дзеецца пры сяўбе рукой і баранаваньні. Адны зярняты ўсходзяць раней, другія пазьней. Адны калівы хутчэй дасьпяваюць і нарастаюць, другія пазьней і, жаўшы такое збожжа, атрымаем няроўнае зярнё.

Зусім іншае будзе зярнё, сабранае з поля, засеянага радавою сеялкаю, дабраным збожжам і забаранованага г. зв. пасеўнаю бараною. Але як дастаць селяніну трыер і радавую сеялку?

Ведама, адзін гэтага ня купіць, але ўсёю вёскаю, у складчыну можна купіць, пры гэтым купляць найлепш цераз сельска-гаспадарчыя гурткі (Kółka Rolnicze), бо можна атрымаць цераз іх пазыку на куплю гэтых неабходных для добрага севу машын.

## ПЧАЛЯРСТВА.

### Хваробы пчолак.

(Гл. „Бел. Дзень“ № 12).

*Гільбэрт* ў 1875 годзе пісаў, што: „Найлепшы спосаб лячэньня ад гнільцу, гэта правідловае ўжыцьцё саліцылавае кіслаты, ўвядзеньне ў вулей здаровых пчол-работніц і замена хворае маткі здароваю“. Ягоная гэта рада шмат дзе практыкуецца ў барацьбе з гнільцом, і ў большасьці выпадкаў апраўдваецца на дзеле.

*Прэйсс* і іншыя вучоныя для вылячэньня гнільцу радзілі ўжываць *фэноль*, а нанайгоршы спосаб лячэньня падаў Бутлераў у 1879 годзе. Па ягонаму спосабу, трэба ў пчолак адабраць матку і па 21-м дні асадзіць іх з маладою маткаю на 12-14 гадзін у раёўню. Зусім благую, заражаную гнільцом, вузу з дзеткаю зьніштожыць, а другія рамкі паабкурваць *серкаю*; пасьля пчолак асадзіць ізноў у вулей і пачаць карміць іх сытою з прыбаўкаю *фэнолю*, 1 унц. раствору на адну бутэльку сыты. (Раствор фэнолю № 1: чыстага фэнолю ў крышталах 12 унцыяў, вады 3 унцыі, зьмяшаць усё з 2-ма шклянкамі вады). Вулей і дно трэба старанна вымыць і нацёрці рошчынаю з аднэй унцыі карболаўкі на 2 шклянкі гарачае вады.

У немцаў распаўсюджаны вельмі гэтакі спосаб лячэньня: дно і самы вулей мыюць вышэйапісаным спосабам, а пчолак кормяць сытою, да якой дадаюць на 2 шклянкі сыты, адну, а найболей 2 каплі карболавае кіслаты; моцна заражаныя рамкі выймаюць расьпячатваюць чарачкі з гнільцом-чарвою і ўпырскваюць туды карболавае кіслаты. Потым рамкі бяруць у медагонку, выцягаюць адтуль усю плынную гніль, асушваюць і ставяць назад пчолам.

Ангельскі пчаляр Т. Каван лячыў свае пчолкі ад гнільцу гэтакім спосабам: браў чысты вулей, націраў яго роспускам фэнолю (роспуск фэнолю № 2 для мыцьця вульлёў: фэнолю-плыну 2 чайныя лыжкі і 1 літр вады). Выймаў потым з заражанага вульля па аднэй рамцы, зьмятаў пчолак у прыгатаваны чысты вулей, скрапляў вузу роспускам фэнолю № 1 з дзьвюма шклянкамі цукровага сыропу і гэтак сама ўкладаў іх у той-жа вулей, выняўшы перад гэтым пры помачы медагонкі мёд з рамак. Гэты мёд можна пераварыць і даваць пчолкам, дадаўшы да яго роспуску фэнолю № 1 з квартаю цукровага сыропу, які робіцца гэтак: белага рафінаду-цукру 10 фунтаў, вады $1/2$ вядра, воцту 1 унцыя, саліцылавага роспуску № 1, солі 1 унцыя.

Па гэтай апэрацыі ён даваў пчолам, асаджаным у новы вулей, ежу, зложаную з роспуску фэнолю № 1 з аднэй квартаю цукровага цыропу, бяручы роспуску фэнолю $1/4$ лыжкі на кварту

вады, і павялічваюты яго аж да аднэй лыжкі. Калі пчолкі гэтага не захочуць есьці, (рэч надта магчымая, калі ёсьць пчолкам доступ да другое ежы), дык трэба разьліць самы слабы лякарскі сыроп у вузу, навакола дзеткі, — пчолкі хутка прывыкнуць і пачнуць есьці. Калі пчолкам запатрабуецца яшчэ вузы, дык трэба даць ім тае, якая ўжо ёсьць спырсканая фэнолем. Па ўсёй гэтай апэрацыі Каван даваў шмат ежы пчолкам, каб яны хутчэй выводзілі дзетку, а калі хвароба ня ўступала, заменьваў матку новаю, здаровую.

Дзеля таго, што і пара фэнолю маець вялікае дэзынфэкцыніручае свойства, Каван у кутку вульля ставіў шклянку моцнага роспуску фэнолю. Заместа звычайнага корка, затыкаў яе ватаю, так, каб гэтая вата апускалася ў плын — тады цераз вату фэноль будзе выпарвацца і запаўняць сабою вулей. Сам фэноль не ядавіты і не разьядаець людзей і жывёлін, але ён моцна дзеець на мухі і на пчолы, дзеля гэтага пры яго ўжыцьці для пчолак ня трэба *перасольваць.*

Мураўіная кіслата, рэкамандаваная насамперш *Дэмплерам* у 1886 годзе, у многіх выпадках, аказала карыснае дзеяньне, пры лячэньні ёю гнільцу. Рэкамандуецца ўзяць мураўінае кіслатк 40-50-цёх працантовы роспуск на шэсьць бутэлек вады.

У пачатку, каб прывучыць пчолак да гэтага лячэньня, неабходна ўліваць сыроп у вузу, навакола дзеткі. Гэтак сама сыроп гэты, з дамешкаю малае колькасьці мураіўнае кіслаты, трэба ставіць на дне вульля, як можна далей ад уваходу, у скрынцы накрытай прадзіраўленым цынкам; пара гэтага роспуску будзе расходзіцца ўва ўсе часьціны вульля. Дзеля таго, што мураіўная кіслата вельмі едкая, дык скрынку трэба перад гэтым абліць воскам і наагул з ёю трэба абходзіцца надта асьцярожна.

З вялікім пасьпехам ужываецца для лячэньня гнільцу і экваліптавае масла. Дзеля гэтага трэба ўліць трошкі гэтага масла ў няглыбокую бляшанку з прадзіраўленаю накрыўкаю і паставіць яе на дно заражанага гнільцом вульля. А цераз кожныя 4-5 дзён пчолкам трэба даваць адну кварту цёплага сыропу, да якога дабаўлена $1/2$ чайнае лыжкі экваліптавае тынктуры. (Тынктура=экваліптавае масла адна часьціна і дзевяць часьцін сьпірту). Гэтую самую тынктуру трэба зрэдка ўліваць у вулей, стараючыся ня капнуць ёю на пчолак. Гэтае лячэньне, ўведзенае сьпярша *Бовэрам,* маець свае застасаваньне ў Швайцарыі і ў паўднёвай францы.

Апошняе лячэньне гнільцу, уведзенае доктарам *Лёртэ* (Lortet) па сваёй прастаце найболей распаўсюджана. Лёртэ рэкамандуець моцнае антысэптычнае і ў той-жа час не ядавітае лячэньне—*бэтанафтолем.* Гэты бэтанафтоль даецца хворым пчолкам у ежы па тры грамы на адзін фунт цукру. У халоднай вадзе ён не распускаецца, але лёгка распускаецца ў сьпірце. Гэтыя тры грамы распускаюцца ў сьпірце і ўліваецца гэта ў яшчэ цёплы цукровы сыроп.

Апрача гэтых усіх лекаў, яшчэ ёсьць два лякарствы, якія хаця не забіваюць гнільцовых бацыляў на сьмерць, але за тое спыняюць іх у разьвіцьці, г. зн. спыняюць хваробу ў яе ходзе. Гэтымі лякарствамі ёсьць: *камфора* і *нафталіна.*

У некаторых выпадках можна ўжыць процiў гэтае хваробы способу, аб якім кажа *Чытаір;* заражанае гняздо зьменшваецца да гэтакіх разьмераў, каб адно толькі яно займала столькі рамак, колькі трэба; рэшта рамак зьмяшчаецца за перагародкаю. Пчолак трэба пачаць карміць сытою з прымешкаю фэнолевага роспуску № 1. Гэтае кармленьне робіцца кожным вечарам (вясною разумеецца). Калі пчолкі ня хочуць есьці сыропу, то яго трэба паўліваць навакола дзеткі ў чарачкі. Матку толькі тады трэба зьмяніць, калі яна гэтак сама акажацца заражана. Рамкі адстаўленыя за перагародку, скрапляюцца роспускам фэнолю № 1. Ні ў якім выпадку гэтым роспускам ня трэба скрапляць рамкі з пчоламі.

Што да лячэньне камфораю, дык яно выглядаець надта проста. Бярэцца кусок камфоры велічынёю з грэцкі гарэх і кладзецца дзе-нібудзь на дно вульля. Перад усім трэба гэты кусок камфоры закруціць у чысьценькую ганучачку, цераз гэтую ганучачку камфора паволі выпарваецца і запаўняець сабою ўвесь вулей, пераз месяц альбо два зусім *спыняючы* (але ня зьнішчыўшы) хваробу. Як камфора ў ганучцы выпарыцца, трэба яе палажыць ізноў у такой самай колькасьці і класьці аж датуль, пакуль вулей не выздаравеець.

Гэтак сама, што і да лячэньня *нафталінай*: чыстая нафталіна кладзецца на дно вульля, як можна далей ад уваходу: яна дэзынфэцыруець і спыняець хваробу, калі яна ня вельмі разьвілася. Бярэцца нафталіны толькі сама, колькі і камфоры і калі яна вытхнецца замяняюць яе новаю. Гэтым способам лечыцца гнілец тады, калі пчолак па способу *Лёрта* ня можна па якіх-небудзь прычынах карміць *бэтанафтолем.*

У тых мясцовасьцях, дзе ўжо ёсьць хваробы г. зн. дзе яны зьявіліся, трэба заўсёды, з мэтаю запабяжэньня ім, трымаць у вульлёх: *фэноль, нафталіну,* альбо *камфору.*

Гэтак сама з мэтаю запабяжэньньня хваробам, трэба карміць пчолак лякарскім сыропам з цукру 10 фунтаў, вады $1/2$ вядра, воцту 1 унцыя, саліцылавага роспуску № 1 адна унцыя і солі $1/2$ унцыі.

На самы астатак трэба ўспамянуць, што з усіх тых способаў лячэньня, якія тут прыточаны і апісаныя, у разе хваробы, пры яе лячэньні, трэба выбраць які-колечы адзін способ лячэньня, а ня кідацца і лячыць усімі способамі зараз, бо такое лячэньне ніколі ня дасьць нам пажаданае карысьці, а наадварот можа яшчэ болей зашкодзіць пчолкам.

**Увага:** Пасьля ўсякае работы з заражаным вульлём, рукі неабходна трэба вымыць вадою з прымешкаю саліцылавае кіслаты; гэта робіцца дзеля таго, каб не заразіць другіх вульлёў, падыходзячы да іх і працуючы, ад хворага вульля. Гэтак сама трэба абмыць нажы і ўсе іншыя прылады, якія ўжываюцца падчас работы на пасецы. Асьцярожнасьць у гэтым адношаньні зьяўляецца неабходнаю, дзеля таго, што аднэй бацылі часамі даволі для здаровага вульля, каб яго заразіць, калі яна пападзець на падатны грунт. Пчолак падчас хваробы трэба старанна сьцерагчы ад рабунку другіх пчолак з здаровых вульлёў.

*Пчаляр.*

## Пара слоў аб штучных гнаёх.

Селянін павінен ня толькі ўжываць штучных гнаёў, але добра ведаць, якіх гнаёў і ў якой колькасьці вымагае зямля. Толькі пэўнасьць, што такі, а ня інакшы штучны гной павялічыць ураджай і аплаціць зроблены на закуп яго выдатак, павінна кіраваць земляробам пры куплі штучнага гною. Кіданьне ў зямлю штучных гнаёў без разбору і парады ў аграномаў, ці абазнаных з штучнымі гнаямі людзей, ня толькі не павялічыць ураджайнасьці поля, але нават можа паменшыць яе.

У тых краёх, дзе зямельная гаспадарка вядзецца культурна і разумна, кожны гаспадар ведае, якога гною і колькі яго вымагае поле і засеў. Ён ведае, што без патрэбнага штучнага гною зямля ня дасьць чаканага ўраджаю.

У нас, нажаль, яшчэ мала дзе ўгнойваюць поле штучнымі гнаямі, а калі і кідаюць іх на грунт, то не здаюць сабе справы, ці штучны гной прынясе карысьць.

Часта штучны гной хочуць лічыць за лякарства проціў усіх „хваробаў" грунту. Управа ральлі бывае марная, засеў позны, насеўнае зярно нікуды нягожае, але затое сыпле гаспадар штучны гной і спадзяецца, што абродзіць збожжа ў 10 разоў. Але з гэтае спадзеўкі нічога ня выходзіць і тады вінаваціць селянін у гэтым штучныя гнаі, хмары ці сонца, толькі не сваю нядбаласьць.

Штучныя гнаі павінны ўжывацца ў сельскай гаспадарцы. Мо' хто адкажа, што гэтая рада для абшарнікаў, а не для дробных малазямельных сялян. Няпраўда—абшарнік можа мець слабы ўраджай, у яго зямлі шмат, дык ён можа сабе пазволіць на благую гаспадарку на зямлі і слабы ўраджай. Але для дробнага гаспадара вельмі важна, каб кожны кусок зямлі не змарнаваўся, а выдаў якнайбольш, бо інакш голад загляне ў хату. Штучныя гнаі толькі тады дадуць карысьць, калі яны ўзяты ў меру не за шмат або за мала і тыя, якіх патрабуе ральля. Але перад усім само поле павінна быць добра дагледжана, бо йнакш на гнаі, за які заплачаны добры грош, будзе расьці зельле і ўсялякая погань. Трэба зараз па жніве заорваць аржышча (пожню), а ў нас шмат дзе яшчэ гэтага ня робяць і гадуюць зельле.

Штучны гной ня дасьць ніякае карысьці калі будзе ўжывацца на поле па незагараным у час, зараз па жніве, аржышчы.

Вось найважнейшыя рады для гаспадара аб ужываньні штучных гнаёў:

1) Штучныя гнаі аплачваюцца тады, калі бярэцца іх ня шмат.

2) Перад тым, як даваць штучныя гнаі, трэба добра абрабіць зямлю, (няглыбокая орка аржышчу, глыбокая асеньняя орка, не высьцераганьне прасушкі зямлі вясною і г. д.).

3) Штучны гной можна даваць на такую ральлю, дзе зьнішчана ўсялякае зельле.

4) Засеў трэба рабіць ня позна і ня рана.

5) Калі збожжа сеўнае добра ачышчанае і дабранае.

Бяз добрай управы зямлі, без нагляду за ёю, нічога не памогуць найдаражэйшыя штучныя гнаі. Затое пры захаваньні пададзеных вышэй вымаганьняў штучны гной ў двое, а то і ў трое павялічыць ураджайнасць і паправіць зямлю.

Дык сяляне, прывыкайце і вучэцеся карыстацца штучнымі гнаямі!

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Новы павет у Наваградзкім ваяводзтве.

Лідзкі павет мае быць падзелены на два стараствы (паветы). Адзін з сядзібай старазства ў Лідзе, другі ў Шчучыне. Праект гэты ўвайдзе ў жыцьцё па зацьвярджэньні яго Радай Міністраў.

### Санітарны агляд віленскіх школаў.

Санітарна-мэдыцынскі агляд 36 пачатковых школаў у Вільні, дакананы ў сакавіку, сьцьвярдзіў паменшаньне ліку дзяцей вашывых. Сьцьверджана 109 дзяцей хворых на экзэму, 300 з пачаткамі сухотаў, 1351 брудных і 357 вашывых.

### Падняцьце роўня вады ў рэках.

У Нёмне і Вільлі пасьля наступіўшага цяпла паднялася вада. На Нёмне каля Друскенік вада зьнясла мост. У хвалях згінуў літоўскі салдат з пагранічнай стражы. Гэтак сама паднялася вада ў Вільлі на 2 мэтры.

## Юрыдычныя парады.

### Важны для сялян цыркуляр.

Міністар Унутраных Справаў выдаў да п. п. ваяводаў цыркуляр гэткага зьместу: „Надыходзячая вясна робіць магчымым узнаўленьне акцыі падняцьця санітарнага і эстэтычнага роўня краю. У зьвязку з гэтым прыпамінаю ваяводам яшчэ раз аснаўныя мае трэбаваньні, зьмешчаныя ў выданых дасюль загадах. Трэбую, каб вынікам гэтае акцыі было: у **местах** — чыстата на пляцох, вуліцах і падворках дамоў, чысты патрэбнік і ў межах кожнай нярухомасьці будка на сьмецьцё, якая павінна замыкацца; бязумоўны парадак у готэлях і рэстарацыях; на вёсках наказваю ў працягу вясны і лета зьвярнуць асаблівую ўвагу на абразцовае ўстройства студняў, а так-жа ўжываньне патрэбнікаў; адносна патрэбнікаў, дагэтуль яшчэ дзеля якіх-колечы прычынаў не пастаўленых, вызначаю апошні тэрмін 1-га лістапада г. г., а гэта з увагі на занацьце люднасьці ў полі ў часе вясны і лета, а роўным чынам і часта-густа поўнай немагчымасьці з прычынаў матар'яльных; на пляцох і вуліцах местаў і вёсак — трэба імкнуцца к пасадцы дзераваў; абразцовы парадак усюды, дзе зьмешчаны публічныя ўрады; перад дамамі ўрадаў — магчыма больш зелені — гароды з кветкамі.

**Пры гэтай спасобнасьці яшчэ раз асьцерагаю прад надужыцьцямі і няжыцьцёвым выконваньнем маіх загадаў, як нпр. вымаганьне сьметнікаў па вёсках, цэмэнтавых ям у патрэбніках, трэбаваньне экстрэннай вывазкі гною на поле і г. д. Гэтага роду бязглуздзіцы (nonsensy), як даводзячыя толькі да хаосу і нездаваленьня люднасьці, буду лічыць за доказ няздатнасьці адносных урадоўцаў да дзяржаўнай службы, з прычыны чаго яны будуць безадкладна ўвальняны.**

Таксама асьцерагаю прад бяздушным і шаблонным тасаваньнем адміністрацыйных караў. За найбольш руплівых і спраўных буду лічыць ня тых старастаў, павятовых дактароў і павятовых камандантаў паліцыі, войтаў і камандантаў пастарункаў, каторыя налажылі альбо прычыніліся да налажэньня найбольшага ліку караў, а тых, якія давялі да ўпарадкаваньня аседляў без гасаваньня караў, альбо пры найменшым іх ліку".

# Апошнія навіны.

**Вынікі польска-літоўскай конфэрэнцыі ў Крулеўцы.** Трываўшая ад 25 сакавіка конфэрэнцыя польскай і літоўскай дэлегацыяў, якая адбылася на падставе прынятых у Жэнэве абавязаньняў міністраў Літвы і Польшчы і рэзалюцыі Рады Лігі Народаў, закончылася 2 красавіка. Літоўскі прэм'ер і міністар загранічных справаў Вальдэмарас рабіў праз увесь час трываньня конфэрэнцыі труднасьці, але ў канцы польскія і літоўскія дэлегаты дагаварыліся і ў выніку зьезду ў Крулеўцы ўтворана 3 камісіі. Гэтыя камісіі, да якіх уваходзяць палякі і літоўцы, маюць абгаварыць спосабы навязаньня беспасярэдніх зносінаў паміж Польшчай і Літвою. 1-ая камісія эканамічна-камунікацыйная будзе вясьці нарады ў Коўне, 2-ая камісія будзе разглядаць справы бясьпечнасьці ў Бэрліне і 3-ая займецца справай руху на пагранічнай паласе і зьбярэцца ў Варшаве. 2 красавіка дэлегаты конфэрэнцыі выехалі з Крулеўца. Перад гэтым польская дэлегацыя даручыла літоўскай проект дагавору аб ненападаньні збройным і прапазыцыю высылкі свайго дыплёматычнага прадстаўніка ў Варшаву. Гэты на месцы мог-бы сцьвярдзіць, што на тэрыторыі Польшчы няма ніякіх бандаў літоўскіх эміграндаў.

**Нямеччына. Склады аружжа ў Гамбургу.** Нямецкія газэты падаюць, што справа выкрытага нядаўна паліцыйнымі ўладамі аружжа прыбірае разьмеры нябывалага скандалу. Аружжа быццам паходзіць з 13-га палку кавалерыі, яно было дана мілітарыстычным арганізацыям на вайсковыя муштры. Гэтыя арганізацыі муштруюцца пад камандай нямецкіх афіцэраў. Вось як выглядае разбраеньне, агульная пацыфікацыя і г. д. У сьлед за выкрытымі складамі аружжа ў Вэнгрыі, Югаславіі, прышла чарга на Нямеччыну.

**Амэрыка. Сьмерць кандыдата на Прэзыдэнта Злучаных Штатаў.** Сэнатар Франк Вільліс, кандыдат на Прэзыдэнта Злучаных Штатаў ад Рэспубліканскай Партыі нагла памёр ад разрыву сэрца ў пачакальні салі, у якой было сабраўшыся больш як 2000 асобаў, якія чакалі на яго кандыдацкую прамову, якую меў сказаць.

**Эгіпэт.** Напружаньне адносін між Эгіптам і Англіяй ня зьменшалася. Эгіпэцкі ўрад выслаў англійскаму ўраду адказ на яго апошнюю ноту, на тое, як эгіпэцкі ўрад адкінуў ангельскі проект дагавору між Англіяй і Эгіптам. У сваім адказе эгіпэцкі ўрад заяўляе, што ён гатоў запэўніць бясьпеку чужынцам, прабываючым у Эгіпце, аднак рашуча выступіць процім якіх-колечы спробаў з боку Англіі ўмешвацца ў унутраныя справы Эгіпту. Крызыс, як бачым, паглыбляецца. Наагул Англія апошнім часам мае шмат каленіяльных клопатаў. Што раз, то болей лейцы, на якіх Англія трымала Эгіпэт, Індыю і іншыя народы, рвуцца. Есьць надзея, што гэныя лейцы прыдзецца Англіі выпусьціць зусім з рук.

**Францыя. Цікаўны працэс у Парыжы.** Хутка мае адбыцца ў Парыжы сэнсацыйны працэс між маршалкам Фошам і камуністычным дэпутатам Марті. Маршалак Фош цягне ў суд да адказнасьці камуністага Марті за тое, што той публічна закідаў яму, быццам Фош запрапанаваў на конфэрэнцыі паслоў Антанты, каб паставілі яго на чале Міжнароднай Арміі; на тое, каб прагнаць з Расеі бальшавікоў. Фош запярэчыў праўдзівасьці падобных закідаў. Сьведкаю ў гэтай справе мае быць камуністы-пасол Кашэн, які сядзіць цяпер у турме.

**С.С.С.Р. Справа арыштаў у Донбасэйне.** Камісар загранічных справаў Чычэрын паведаміў нямецкі ўрад, што нямецкаму консулю ў Харкаве дазволена пабачыцца з арыштованымі нямецкімі інжынерамі.

Нямецкія прамысловыя кругі, якія найболей ахвотна пускалі свае капіталы ў Расею, з прычыны апошніх падзеяў, пастанавілі ўстрымацца ад далейшай працы ў Расеі.

Па поваду выкрыцьця контррэвалюцыйнага загавору ў Данецкім вугальным басэйне, Акружны Камітэа Компартыі Паўночнага Каўказу правёў сьледзтва ў партыі ў раёне Шахры і звольніў кіраўніцтва, як нягдольнае да кіраваньня найважнейшымі справамі.

У Маскве арыштованы швэдзкі падданы Сков Цэльсон, абвінавачаны ў нарушэньні манаполю вонкавага гандлю. Швэдзкае пасольства ў Маскве энэргічна выступіла ў абарону арыштованага.

За ўчасьце і падтрымліваньне опозыцыі атрымаў адстаўку з пасады кіраўніка Статыстычнага Ураду б. прадстаўнік савецкі ў Рыме Кержэнцэв. На яго становішча назначаны камісар Працы Шмідт.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Антону Саевічу** ў в. Доўгі-Брод. Адказ паслалі лістом. Прачытайце № 9 (49) „Беларускага Дня".

**Аляхновіч Пётра.** Падпіску атрымалі, газэту высылаем. У справе прадажы сасновага насеньня зьвярнецеся да Centralnego Towarzystwa Rolniczego—Варшава, Копэрніка 4.

Воўк Т., Рожка Адольф, І. Касьцюкевіч, Гуцько Ал., Лэган Міхал, Казлоўскі Браніслаў, Вярбіцкі Ігнат, Саўчык Мар'я, Каган Рыгор, Сладкоўскі Павал, Мятушка Якаў, Навіцкі Фабіян — просьбу Вашу спаўняем, пробныя нумары „Бел. Дня" высылаем, высылайце падпіску, у працiўным выпадку высылку газэты праз месяц спынім.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3